Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 34 (542) 26 жніўня 2010 года | Кошт **свабодны**





Экскурсанты ў Каралевічах ля дома паэта Алеся Дубровіча.
*Фота Ул. Скрабатуна*

## Ç 1 âåðàñíÿ ¢ áåëàðóñê³õ øêîëàõ ïëàíóåööà ¢âåñö³ òðû ¢ðîê³ çàìåæíàé ìîâû íà òûäçåíü

■ **Таццяна Дарашчонак,** ***БелаПАН***

**З 1 верасня ў беларускіх школах плануецца ўвесці тры ўрокі замежнай мовы на тыдзень. Пра гэта паведаміў намеснік міністра адукацыі Казімір Фарыно на прэс-канферэнцыі 19 жніўня. Раней у беларускіх школьнікаў было па два ўрокі замежнай мовы на тыдзень, заўважыў намеснік міністра.**

Паводле слоў Фарыно, праграма дзеянняў па павышэнні якасці навучання замежным мовам распрацоўвалася міністэрствам апошнія тры гады. Канцэптуальную частку гэтай працы выконвала група пад кіраўніцтвам рэктара Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Наталлі Баранавай.

Галоўная задача праграмы – пераход ад граматычнага складніка навучання замежнай мове да камунікатыўнага, сказаў намеснік міністра. З гэтай мэтай апрача павелічэння колькасці навучальных гадзін было прынята рашэнне аб раздзяленні школьнага класа на занятках па замежнай мове не на дзве групы, як гэта было раней, а на тры. Гэтыя рашэнні падтрымаў Прэзідэнт Беларусі 5 жніўня, прымаючы з дакладам Міністра адукацыі Аляксандра Радзькова, зазначыў Фарыно.

Разам з тым, паводле яго слоў, пастанова аб увядзенні дадатковай навучальнай гадзіны па замежнай мове пакуль не прынята – яна знаходзіцца на рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі.

Намеснік міністра таксама паведаміў, што школы арганізацыйна і метадычна гатовы да ўвядзення трэцяга ўрока замежнай мовы на тыдзень. Фарыно заўважыў, што пры ўвядзенні дадатковых гадзін павялічыцца нагрузка на педагогаў замежнай мовы, што дазволіць ім больш зарабляць.

У лінгвістычных гімназіях таксама прадугледжана ўвесці дадатковую навучальную гадзіну па замежнай мове.

Праз два гады, паведаміў намеснік міністра, у Беларусі будзе ўведзены абавязковы экзамен па замежнай мове за курс сярэдняй школы.

## Ïðàåêò ïàñòàíîâû àá ïàâûøýíí³ çàðàáîòíàé ïëàòû íàñòà¢í³êà¢ çíàõîäç³ööà íà ðàçãëÿäçå ¢ðàäà

■ **Таццяна Дарашчонак,** ***БелаПАН***

**Праект пастановы аб павышэнні заработнай платы педагагічным работнікам падрыхтаваны і знаходзіцца на разглядзе ўрада. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 19 жніўня ў Мінску паведаміў намеснік міністра адукацыі Беларусі Казімір Фарыно.**

Да прыняцця пастановы ён адмовіўся паведаміць пра дату і памеры павелічэння заработнай платы беларускім педагогам. Фарыно паведаміў, што ў беларускіх школах працуюць 110.770 настаўнікаў, сярод якіх прыкладна 8 тыс. пенсіянераў і 5,2 тыс. маладых спецыялістаў.

Паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у чэрвені гэтага года сярэдні заробак ва ўстановах адукацыі быў 874,1 тыс. рублёў, у тым ліку настаўнікаў — 965,5 тыс., прафесарска-выкладчыцкага складу — 2 млн. 157,1 тыс. рублёў.

Нагадаем, 5 жніўня Аляксандр Лукашэнка, прымаючы з дакладам Міністра адукацыі Аляксандра Радзькова, запатрабаваў павялічыць зарплату работнікам сферы адукацыі і аховы здароўя.

У лютым 2009 года зарплата настаўнікам была павышаная ў адпаведнасці з дэкрэтам Прэзідэнта № 15 "Аб некаторых пытаннях агульнай сярэдняй адукацыі". Заробкі педагогам павялічыліся на 5%, хаця Міністэрства адукацыі прапанавала 25-працэнтнае павышэнне. Акрамя таго, зарплата настаўнікаў, як і іншых работнікаў бюджэтнай сферы, звязана з тарыфнай стаўкай першага разраду, якая перыядычна пераглядаецца ўрадам. Сёлета яна павялічвалася двойчы – 1 студзеня і 1 чэрвеня.

Ïîëàöê³ ðà¸í

## Áë³íû ³ ïàäàðóíê³ äëÿ ãåðîÿ¢ æí³âà

■ **Станіслаў Раманчук**

**Дзякуючы спрыяльнаму надвор’ю, сёлета многія раёны вобласці, як ніколі рана, ужо ў сярэдзіне жніўня завяршылі ўборку зерневых.**

Аднак усюды, у тым ліку і на Полаччыне, ураджайнасць збожжа аказалася нізкай і не дасягнула тут нават 19 цэнтнераў з гектара, валавы збор зерня аказаўся меншым на 10 тысяч тон, чым летась. Нягледзячы на гэта, хлебаробы ў Полацкім раёне стараліся і ўбралі за пару тыдняў 17, 6 тысяч гектараў. Таму было вырашана правесці ў вёсцы Гараны агульнанароднае раённае свята “Дажынак”, дзе ў мясцовай гаспадарцы атрымалі, дарэчы, па 26 ц/га зерневых. Падчас гэтага хлебаробскага свята прайшла дэгустацыя-продаж прадукцыі мясцовага камбіната хлебапрадуктаў. Праца лепшых працаўнікоў сельскай гаспадаркі была адзначана важкімі ўзнагародамі, а таксама рознымі забаўляльнымі конкурсамі. Адным з самых цікавых стаў конкурс едакоў па паяданню на хуткасць смачных бліноў, пельменяў, чабурэкаў і піцы. Пераможцы ў кожнай з гэтых намінацый атрымалі каштоўныя прызы. Побач з лепшымі камбайнерамі і вадзіцелямі на адвозцы збожжа на полацкіх “Дажынках” ушанавалі і тых, хто дапамагаў вяскоўцам сабраць хлеб у анамальна спякотных умовах сёлетняга лета.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## Íÿìà êàãî âó÷ûöü

■ **Кастусь Александровіч**

**У гэтым годзе найбольш складаная сітуацыя з наборам навучэнцаў у сярэдне-спецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы склалася па краіне на Віцебшчыне.**

Сёлета шмат дзе па розных прычынах гэтыя навучальныя ўстановы істотна зменшылі планы набору першакурснікаў. Не стаў выключэннем у гэтым навучальным годзе і Пастаўскі дзяржаўны прафтэхкаледж. З-за няпростай у глыбінцы дэмаграфічнай сітуацыі ў гэтым годзе тут на 1-ы курс плануюць залічыць толькі 175 навучэнцаў, калі яшчэ летась прынялі на вучобу 420 юнакоў і дзяўчат. Між тым, у каледжы акрамя свайго рыхтуюць спецыялістаў яшчэ для чатырох раёнаў Віцебшчыны і для Мядзельскага раёна суседняй Мінскай вобласці. Але сёлета ў Паставах пачынаюць рыхтаваць і маладых слесараў па рамонце аўтамабіляў – вельмі запатрабаванай зараз спецыяльнасці. Прычым Міністэрства адукацыі Беларусі дазволіла паставаўчанам у 2010 годзе ўпершыню набраць навучэнцаў і на другі ўзровень з атрыманнем сярэдняй спецыяльнай адукацыі з атрыманнем кваліфікацыі “тэхнікамеханіка”. Дагэтуль па скарочанай праграме тут па праграме тэхнікума рыхтавалі толькі кваліфікаваных бухгалтараў.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

## Ç ìàðàé ïðà ÿõò-êëóá

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Нават ва ўнікальным па сваіх прыродных багацях краі Браслаўскіх азёр далёка адстае ад сучасных патрабаванняў інфраструктура для масавага адпачынку і турызму.**

У пік сезона тут, як пацвердзіла нядаўняя рабочая паездка кіраўніка Беларусі, месц для ўсіх турыстаў, жадаючых прыехаць сюды, не хапае. Патрэбны дадатковыя добрыя дарогі для 74 азёр толькі на тэрыторыі нацпарка, патрэбны і новыя свае і замежныя інвестары для належнага выкарыстання патэнцыялу раёна. Тым больш, што ў райцэнтры ўжо з’явілася свае падрыхтаваныя яхтсмены, сям’я Юран. Яе глава Браніслаў прайшоў неабходную падрыхтоўку ў адным з яхт-клубаў Польшчы і атрымаў пасведчанне капітана яхты. Такое дарагое судна перадаў ім мясцовы касцёл, якому ў сваю чаргу набылі яхту за свае сродкі землякі, якія жывуць у суседняй краіне. Па дамове з храмам, мясцовыя яхтсмены бясплатна катаюць пад парусам па водах возера Дрывяты маладых прыхаджан святыні і ўсіх жадаючых. У бартавым журнале ёсць імёны пасажыраў з розных куткоў Беларусі, а таксама з Расіі, Украіны, Польшчы, Грузіі і Азербайджана. У недалёкім будучым муж з жонкай Юраны выходзяць на пенсію і мараць пра яхт-клуб, бо бачаць жаданне мясцовай рабятні навучыцца кіраваць яхтай. Справа за тым, каб з’явіліся багатыя суайчыннікі і дапамаглі з набыццём хоць бы яшчэ некалькіх яхт эканом-класа.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 26.08.10 | | | | пятн. 27.08.10 | | | | сб. 28.08.10 | | | | нядз. 29.08.10 | | | | 30.08.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +14 | +14 | +16 | +14 | +11 | +14 | +17 | +13 | +10 | +14 | +17 | +13 | +11 | +13 | +15 | +12 | +10 | +12 | +14 |
| Ціск, мм | 738 | 738 | 739 | 739 | 740 | 740 | 740 | 738 | 738 | 738 | 739 | 739 | 738 | 739 | 739 | 738 | 738 | 738 | 741 |
| Вільготнасць, % | 79 | 79 | 71 | 80 | 91 | 85 | 65 | 94 | 100 | 82 | 61 | 94 | 99 | 95 | 75 | 94 | 100 | 96 | 79 |
| Вецер м/сек | Ю-З 7 | З 7 | З 8 | З 5 | З 3 | Ю 3 | Ю 3 | Ю-В 2 | С 3 | В 2 | С-В 1 | Ю-В 1 | С-З 1 | Ю-З 2 | Ю-З 2 | Ю-З 3 | С-З 2 | Ю-З 2 | С-З 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З новага навучальнага года ў школах Беларусі з 1-га па 11-ты класы ўпершыню ўвядуць факультатыўны курс "Асновы праваслаўнай культуры. Праваслаўныя святыні ўсходніх славян". Аднак заняткі па ёй не з'яўляюцца абавязковымі для вучняў, а вось дзіцячыя спартыўныя секцыі неўзабаве стануць часткова платнымі. Усяго ж праз некалькі дзён упершыню сядуць за парты больш 86 тысяч першакласнікаў, а ў беларускіх школах, гімназіях і ліцэях пачнуць вучыцца 940 тысяч навучэнцаў, і для іх уводзіцца дадатковая гадзіна вывучэння замежнай мовы.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Былы дырэктар ЦРУ Майкл Хейдэн назваў верагодны вайну з Іракам з-за набліжэння стварэння ім ядзернай зброі і неэфектыўнасці прымаемых сусветных санкцый.

**Чэхія.** Адразу трох высокапастаўленых ваенных звольнілі з чэшскай арміі з-за скандала з выкрыццём расійскага ваеннага шпіёна, які паспеў збегчы перад арыштам у Расію.

**Румынія.** На вайсковых могілках у Бухарэсце ўскрылі магілу астанкаў былога дыктатара краіны Мікалае Чаушэску для эксгумацыі і экспертызы ДНК па просьбе яго родных.

**Японія.** У жалобных мерапрыемствах з нагоды 65-годдзя атамнай бамбардзіроўкі двух гарадоў краіны ўпершыню ўдзельнічалі прадстаўнікі ЗША, іх асноўныя саюзнікі ў вайну.

**Расія.** Значны ўрон эканоміцы краіны з-за засухі і лясных пажараў будзе шматкрат перакрыты даходамі ад продажу энерганосьбітаў на суму 93,9 млрд. $ за 6 месяцаў.

**Кыргыстан.** У следчы ізалятар сталіцы даставілі арыштаванага брата экс-прэзідэнта Ахмата Бакіева за хваляванні і гібель людзей, у пошуку яшчэ два браты і сын Максім.

**Малдова.** Канстытуцыйны суд краіны не дазволіў былому прэзідэнту з 2001 года, камуністу Уладзіміру Вароніну балатавацца ў трэці раз на пасаду кіраўніка дзяржавы.

**Германія.** Група даследчыкаў-эканамістаў спрагназавала, што сёлета Беларусі не ўдасца выйсці на сярэднюю зарплату 500 $, рэальна падняць заробкі працоўных да 400 долараў.

**Кітай.** Ад моцнай паводкі ў паўночных раёнах краіны пацярпелі больш 20 тысяч чалавек, больш 1,3 тысячы жыхароў зніклі і, хутчэй усяго, загінулі ў выніку апоўзняў зямлі.

**Польшча.** Магутнейшыя ліўні зноў затапілі поўдзень краіны і яе сталіцу Варшаву, моцны паводак накрыў Германію, Чэхію, Прыбалтыку і забраў там жыцці яшчэ15 чалавек.

**Куба.** Упершыню за апошнія 4 гады шматгадовы кубінскі лідэр, "камандантэ" Фідэль Кастра змог пасля хваробы выступіць перад парламентам краіны, абрушыўся на ЗША.

**Грузія.** Авіяцыйныя ўлады краіны з задавальненнем далі дазвол кампаніі "Белавія" на выкананне на самалётах Боінг рэгулярных рэйсаў па маршруце Мінск-Батумі-Мінск.

**Літва.** Краіна вырашыла пабудаваць газаправод "Амбер" у абход Расіі і злучыць яго з газатранспартнай сістэмай ЕС, атрымоўваць газ з тэрміналаў прыроднага газу ў Польшчы.

**Італія.** У рамках Тыдня правоў чалавек ганаровым грамадзянінам горада Генуа стаў беларускі праваабаронца, кіраўнік незарэгістраванага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі.

**Фінляндыя.** Чэмпіянат свету па спартыўнай саўне завяршыўся ў канцы трагедыяй: памёр фіналіст з РФ У. Ладыжэнскі, трапіў у бальніцу з апёкамі і яго сапернік фін Ц. Кауконнен.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Галіновы прафсаюз сенсацыйна запатрабаваў ад урада Беларусі павялічыць зарплату настаўнікам на 25 %, у РБ заробкі меней 1 млн. рублёў у 43,5 % працоўных.

**Рагачоў.** Пасля забойства п'яным участковым дзяўчыны ў раёне больш 30 розных супрацоўнікаў і кіраўнікоў сістэмы МУС пакаралі вымовамі і звальненнямі з органаў.

**Мінск.** Па выніках уступнай кампаніі ў Ваенную акадэмію Беларусі залічылі 573 маладых курсантаў, з іх упершыню - і 10 дзяўчат на прэстыжны на авіяцыйны факультэт.

**Гродна.** Актывісты грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" сабралі больш 7 тысяч подпісаў за тое, каб вуліца імя В. Быкава з'явілася ў горадзе, у Мінску сабралі 103 тысячы.

**Брэст.** За атрыманне хабару ў 1 тыс. $ міліцыя затрымала в. а. гендырэктара КУП "Брэстсадавінагароднінапрам", у яго аўто знайшлі віно і кансервы без дакументаў.

**Бабруйск.** Падчас урагану дрэва ўпала на маршрутку і забіла 49-гадовага вадзіцеля, яшчэ дзве гараджанкі і дзіця ледзь не былі забіты маланкай, з апёкамі трапілі ў бальніцу.

**Мінск.** Першае прадстаўленне ў абноўленым будынку цырка пройдзе ў лістападзе, тут адкрыецца і дзіцячая цыркавая студыя для юных талентаў з усіх куткоў краіны.

**Ліда.** У рамках аптымізацыі беларускай авіяцыі ў горадзе створаць Цэнтр падрыхтоўкі лётнага складу ВПС РБ, сюды ўжо перавялі авіябазу з Росі, закрыта авіябаза і ў Бярозе.

**Мінск.** Сталічны завод вінаградных він упершыню ў Беларусі пачаў разліў выдатных вінаградных французскіх вінаў з правінцыі Бардо славутых марак Шато.

**Столін.** Паблізу пасёлка Давід-Гарадка ўрачыста адкрылі мемарыял памяці ахвяр Халакосту у выглядзе 7 вялізных свечак з бетону, тут вайной знішчылі 7 тысяч яўрэяў.

**Гродна.** Лідэр беларускага руху "За свабоду" А. Мілінкевіч з жонкай сталі ганаровымі гасцямі цырымоніі інаўгурацыі новага, пятага па ліку прэзідэнта сучаснай Польшчы.

**Асіповічы.** З-за прарыву вечарам насыпу дамбы рыбгас "Свіслач" за гадзіну страціў каля 100 тон карпа, многа рыбы здохла адразу, частку дармавых рыбін ловяць рыбакі на рэчцы.

**Мінск.** Авіякампанія "Белавія" купіла чарговы канадскі самалёт CRJ, аднавіла рэгулярныя палёты ў Стакгольм і ў Іран, на чарзе адкрыццё рэйсаў з Мінска на Хельсінкі і Осла.

**Бабруйск.** На аб'яднанні "Белшына" пачалі выпуск новай мадыфікацыі аблегчаных па вазе айчынных шын для легкавых аўтамабіляў з накіраваным малюнкам іх пратэктараў.

**Магілёў.** Упершыню ў гісторыі спорту мясцовы ФК "Днепр" разам з "Дынама" (Мінск) і БАТЭ (Барысаў) выйшлі ў 4-ты раунд плэй-оф розыгрышу Лігі Еўропы па футболе.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ àáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Будтрэст № 9 завяршыў узвядзенне новай сучаснай СШ № 46 на 930 вучнёўскіх месцаў са стадыёнам, харчовым блокам і тэнісным кортам у мікраёне Білёва.

**Орша.** З пачатку года толькі на 10 млрд. рублёў удалося разгрузіць склады з гатовай прадукцыяй льнокамбіната, але ў 2011 годзе вырашана мадэрнізіраваць 10 льнозаводаў.

**Браслаў.** У праграму развіцця азёрнага краю намечана ўключыць 100 км новых аўтадарог, новы пансіянат, санаторый у Відзах, базу адпачынку ў вёсцы Іказнь, новыя аграсядзібы.

**Наваполацк.** Па паўночнаму маршруту паставак венесуэльскай нафты для перапрацоўкі на НПЗ "Нафтан" толькі ў жніўні яе паступіць з Эстоніі па чыгунцы 160 тысяч тон.

**Віцебск.** Кіраўніцтва вобласці плануе ў бліжэйшыя 5 гадоў убраць хмызняк на палях на плошчы 100 тысяч гектараў, на што спатрэбіцца патраціць яшчэ 200 млрд. рублёў.

**Лужасна.** Пад будаўніцтва Віцебскай ГЭС магутнасцю 40 МВт выбралі тут пляцоўку ў 8 км ад горада па цячэнню ракі Заходняя Дзвіна, яе ўвод у эксплуатацыю ў 2015 годзе.

**Паставы.** Ураганны вецер парывамі да 24 м/с абрушыў дах і сцяну малагадоўчай фермы ў буйнейшай гаспадарцы раёна – СВК "Камайскі", загінула цяля, ранены 3 каровы.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" супрацоўнікі Віцебскай мытні затрымалі пры ўездзе ў РБ у грузавіку літоўца партыю кантрабанднай касметыкі на 1,5 млрд. рублёў.

**Дуброўна.** З-за адсутнасці дажджоў зацягнулася вылежка трасты на мясцовым льнозаводзе, дзе яго ў парадку эксперымента вырошчвалі па французскай тэхналогіі.

**Орша.** На тэрыторыі вопытнага лягаса затрымалі беспрацоўнага з Расіі пры спробе перапраўіць праз граніцу скрадзеных 140 кубаметраў спіленага лесу на 5, 6 млн. рублёў.

**Віцебск.** Праз 10 месяцаў праверкі пракуратура распачала крымінальную справу супраць нам. начальніка батальёна ДПС абласной ДАІ за быццам наезд на пенсіянера на роварэ.

**Шуміліна.** З-за дрэннага самаадчування 16-гадовага дзяўчына з пасёлка Обаль выпала з тамбура дызель-поезда Віцебск-Полацк на перон станцыі райцэнтра, яна шпіталізавана.

**Віцебск.** Паблізу аўтатрасы Віцебск-Смаленск пачалося праектаванне яшчэ адной новай сярэдняй школы на 1020 месц для буйнога жылога мікрараёна абласнога цэнтра.

**Орша.** У горадзе яшчэ пры жыцці ўвекавечылі ваеннага лётчыка, Героя Савецкага Саюза Анатоля Салянікава, яго імя прысвоілі новай вуліцы ў перспектыўным раёне райцэнтра.

**Сураж.** Па віне рыбакоў, не патушыўшых добра касцёр, пацярпела ад агню амаль 5 гектараў лесу ў Канашынскім лясніцтве, такі ж буйны лясны пажар быў і на Расоншчыне.

**Наваполацк.** Вядомаму малатабойцу Вадзіму Дзевятоўскаму вярнулі сярэбраны медаль гульняў Алімпіяды ў Пекіне, яму таксама была выдзелена кватэра ў беларускай сталіцы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**600** *млн $* - на такую суму напрыканцы ліпеня размясціла Беларусь свой першы выпуск еўрааблігацый па стаўцы 9 % гадавых. Не трэба быць вялікім эканамістам, каб зразумець, што наша краіна мае вострую праблему ў знешнім фінансаванні і прыцягненні хоць такім чынам замежных інвестыцый на фоне ўстойлівага адмоўнага сальда знешняга гандлю. Беларусы апошнім часам болей купляюць, чым прадаюць.

Гэты дэбютны выпуск такіх каштоўных папер паступіў на рахункі Міністэрства фінансаў РБ у Нацыянальным Банку са стаўкай даволі дарагой, бо раней нам выдзялялі сродкі па крэдытах МВФ і Расія па меншых банкаўскіх працэнтах. Цяпер сітуацыя пагоршылася, бо растуць цэны на газ і нафту. "Чорнае золата" ўвогуле расіяне сталі пастаўляць нам без пошлін толькі для ўнутраных патрэбнасцей, што ў сваю чаргу прывяло да змяншэння паступленняў валюты ў краіну. Вось у такіх умовах і было вырашана размясціць еўрааблігацыі на еўрапейскім рынку. Як кажуць, гэта лепей, чым нічога, хоць і дорага.

Кожныя паўгода ў далейшым 3 лютага і 3 жніўня беларускі Мінфін павінен ужо з будучага года выплачваць працэнты і завяршыць усе выплаты ў 2015 годзе. Праўда, наш першы выпуск прыцягнуў увагу адразу 145 інвестараў з розных куткоў свету і перападпісваўся нават 3 разы. Заяўкі на ўдзел у размяшчэнні еўрааблігацый былі атрыманы нават на суму 1,5 млрд. долараў. Пакуль знешні доўг Беларусі не крытычны, рызыкі для пакупнікоў беларускіх каштоўных папер асаблівай няма. Нашы еўрааблігацыі прайшлі неабходную працэдуру на Люксембургскай фондавай біржы, ім былі прысвоены суверэнныя рэйтынгі.

У выніку маем тое, што маем пасля даволі істотнага пагаршэння адносін з Расіяй і сітуацыі на знешніх рынках сёлета. Еўрааблігацыі патрэбны нам найперш на бягучае спажыванне, падтрымку курса беларускага рубля і на іншыя бягучыя расходы. Канешне, хацелася б, каб нас у свеце ацэньвалі лепей, а не па стаўцы 9 % гадавых. Для параўнання, такія маючыя праблемы ў эканоміцы краіны, як Грэцыя і Іспанія, размясцілі свае еўрааблігацыі па стаўцы прыкладна ў 2 разы меншай за нашу. Вядомы манапаліст, канцэрн "Газпрам" таксама размясціў свае каштоўныя паперы на 0,5 млрд. долараў па стаўцы 6,25 % гадавых.

Беларусы яшчэ некалькі гадоў бралі крэдыты ў РФ і МВФ стаўцы 3- 3,75 % гадавых тэрмінам на 15 гадоў. Сёлета не зусім добра, што стаўка даходнасці айчынных еўрааблігацый аказалася такой высокай і мы пагадзіліся на адпаведныя правілы гульні. У аналагічнай сітуацыі, да прыкладу, Украіна адмовілася размяшчаць свае каштоўныя паперы. Аднак ва ўкраінцаў мелася іншая магчымасць атрымання знешніх займаў на 15 млрд. долараў ад МВФ. Магчымасць атрымання такіх крэдытных рэсурсаў ад гэтага заходняга фонду пакуль не абмяркоўвалася кіраўніцтвам нашай краіны, магчыма, у канцы года будзе прынята рашэнне аб далейшым супрацоўніцтве з МВФ.

Любой краіне трэба думаць, як пазбегнуць вялікага знешняга доўгу і не дапусціць таго ж дэфолта. Як ні круці, але многія сур'ёзныя інвестары пакуль з асцярожнасцю паглядваюць у наш бок. Справа ў тым, што нягледзячы на рост айчыннага ВУП, даўгі Беларусі растуць, мала ствараецца ў нас сучасных вытворчасцей, якія б адпавядалі лепшым міжнародным стандартам. Асноўная галіна эканомікі – нафтаперапрацоўка, якая і фарміруе дзяржаўны бюджэт, не можа дзейнічаць так эфектыўна, як раней, перапрацоўваючы нафту з далёкай Венесуэлы.

Нам жа застаецца спадзявацца, што да канца года ўдасца ўраду ў Беларусі захаваць стабільны курс нацыянальнай валюты і не дапусціць росту інфляцыі. У большасці ўпраўленцаў расце разуменне, што інвестыцыі патрэбны найперш на стварэнне высокаэфектыўных сучасных рабочых месцаў. Таму наша краіна прадоўжыць размяшчэнне наступных выпускаў еўрааблігацый і будзе імкнуцца да ўстанаўлення больш нізкіх працэнтных ставак. Поспех у любой справе прыходзіць да найбольш падрыхтаваных, мэтанакіраваных людзей, і ў беларусаў ёсць добрыя перспектывы для супрацоўніцтва за мяжой і прыцягнення ў краіну неабходных інвестыцый.

Генадзь Комель

# Ігнапаль

## і яго ваколіцы

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года, №30 (538) 29 ліпеня2010 года, №31 (539) 5 жніўня 2010 г., № 32 (540) 12 жніўня 2010 года.*

Дарагія чытачы! Вы можаце ўсхваляць альбо ганьбіць дзеянні свайго земляка Рачыцкага. Гэта Вашая асабістая справа. Але я, як даследчык, павінен паведаміць, што маладзёжная арганізацыя неафіцыйна была створана яшчэ васеннню 1941 года ў Глыбоцкай акрузе. Гэтаму паспрыялі некалькі фактараў. Кожнаму мясцоваму кіраўніку стала зразумела, што зберагчы моладзь ад вывазу ў Германію можна толькі стварэннем маладзёжнай арганізацыі, якая дапамога мясцовай адміністрацыі ў кіраўніцтве. У першай фазе акупацыі Разенберг не прадугледжваў стварэнне маладзёжных арганізацый і толькі 30.06.1942 года ён выдаў дэкрэт, які дазваляў ствараць такія аддзелы ў Прыбалтыйскіх краінах. Кубэ ў стварэнні СБМ бачыў важны сродак ажыццяўлення сваёй канцэпцыі. У Берліне пры ўдзеле Акінчыца была наладжана падрыхтоўка акруговых кіраўнікоў СБМ, часткова з ліку палонных афіцэраў. Напісаны праект Статуту ў пачатку 1943 года.

У Мінску і Альберціне былі створаны і адкрыты два навучальныя цэнтры. У Альберціне (прыгарад Слоніма) – для хлопцаў, а ў Драздах пад Мінскам – для дзяўчат. Для членаў СБМ магла належыць беларуская моладзь ад 10 да 20 гадоў. Яны ладзілі беларускія вечарыны, ездзілі са сваімі праграмамі ў Нямеччыну, з дапамогай кіраўніцтва гітлерюгенду была закуплена за даволі невялікую плату форма для членаў СБМ.

Статут СБМ падразумяваў у тайных сваіх планах перавыхаванне ўсяго грамадства ў духу сваіх праграмных ідэй. Па сутнасці, СБМ стаў у Берліне адзінай грамадскай легальнай арганізацыяй. Савецкае падполле ставілася да СБМ рэзка адмоўна, але змагацца з гэтай арганізацыяй было амаль немагчыма, бо ўсё-такі малалеткі, ды й дзейнічалі ў буйных гарадах. Стварэнне СБМ дало пачатак новай прапагандысцкай кампаніі, што Нямеччына прызнае за гэтым народам права на будучыню, а Кубэ дазволіла сцвярджаць, што яго палітыка адпавядае пазіцыі Нямеччыны.

Утварэнне Беларускага камітэту даверу (Рады даверу) 27.06.1943 года для Кубэ было важным палітычным ходам. Склад (пабудова) камітэту з'яўляецца цікавай і для сённяшніх дзён.

Усяго 16 чалавек складалі камітэт даверу. 9 з іх былі прадстаўнікамі мясцовай беларускай адміністрацыі. Гэта Сымон Цытовіч (Слонім), Мадэст Яцкевіч (Ліда), Язэп Душэўскі (Слуцк), Уладзімір Казёл (Глыбокае). Кубэ запрасіў яшчэ 6 (9+6=15, а 16-ты не быў названы). Былі ўведзены: Вацлаў Іваноўскі (старшыня), Канстанцый Рабушка (кіраўнік камітэта прафсаюза). Фармальна камітэт даверу быў толькі часткай Генеральнага Камісарыяту. Таму для яго не трэба праграма, Статут, а пагэтаму Розенберг не мог яго адмяніць, альбо не зацвердзіць.

У той жа дзень 27.06.1943 года было створана Беларускае навуковае таварыства і Розенберг выдаў дазвол на стварэнне медыцынскага інстытута. Утварыўшы камітэт даверу, Кубэ выкарыстаў яго, як трыбуну для крытыкі промахаў дзеянняў адміністрацыі. 24.03.1943 года Кубэ пераслаў Розенбергу рапарт камісара Мінскай акругі доктара Людвіка Эрэнляйтнера. Напэўна, гэта быў першы рапарт такога зместу, бо амаль два месяцы разглядалі ў чатырох розных інстанцыях, пакуль пад канец траўня Лёзэ не пераслаў яго ў Берлін. Кубэ 29 чэрвеня пісаў Розенбергу, што было знішчана 13 000 ворагаў і трафеі толькі 950 вінтовак. Камітэт даверу сабраў звесткі аб праведзеных карных аперацыях па ўсіх акругах.

У пачатку 1942 года Кубэ рашуча падтрымаў зямельную рэформу і ўжо вясной зямля і інвентар калгаса перайшлі ва ўжытак сялян.

Аднachасова Кубэ распачаў беларусізацыю царкоўнага жыцця. Вясной 1942 года ён узаконіў дзейнасць грэка-каталіцкай царквы, якая існавала падпольна з кастрычніка 1939 года ўкраінскім мітрапалітам Шаптыцкім.

У меру прасоўвання па савецкай тэрыторыі немцы з пэўным здзіўленнем пабачылі, што адносіны да рэлігіі ў савецкіх грамадзян не зніклі. Людзі кленчылі ля нямецкіх танкаў з крыжамі.

Мітрапаліт Дыяніс (польская аўтакефальная праваслаўная царква) меў падтрымку нацысцкага генерал-губернатара Франка, а пагэтаму спадзяваўся аб'яднаць усе цэрквы на акупаванай немцамі зямлі пад сваім началам. У верасні 1941 года мітрапаліт Дзіянісій стварыў і ўзначаліў беларускую царкоўную раду ў Варшаве. У верасні 1941 года быў створаны камісарыят па справах рэлігіі і яго ўзначаліў Кубэ. 03.10.1941 года Кубэ даслаў ліст мітрапаліту Панцелеймону з патрабаваннем утварэння аўтакефальнай (самастойнай) царквы. Першае – мусіць быць цалкам незалежнай ад Масквы, Варшавы, Берліна і іншых. Другое – называцца павінна "Беларуская аўтакефальная праваслаўная народная царква". Трэцяе – вольная ад умяшання нямецкіх уладаў у яе ўнутранае жыццё. Чацвёртае – кіраванне царквой, выкладанне рэлігіі і казанні мусяць весціся па-беларуску.



**Беларускія дзяўчаты на народным свяце Дажынкі ў акупаваным Мінску. Здымак 4.10.1942 г.**

Сабор епіскапаў Беларусі (сакавік 1942 года) падзяліў Беларусь на 6 епархіяў: 1) Мінска-Віленская (Панцелеймон), 2) Гарадзенска-Беластоцкая (Бенедзікт), 3) Магілёўская (Філафей), 4) Віцебская (Афанасій Мартос), 5) Смаленская (Сцяпан), 6) Баранавіцка-Навагрудская. У Саборы ўдзельнічаў ад Залескай царквы (Глыбоцкі раён) Балай. 4 з 6 епархіяў узначальвалі беларусы па паходжанні. Кубэ ў праціставнні з главой СС Гімлерам падтрымаў барацьбу за Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву, што і падштурхнула выдаліць рускамоўнага мітрапаліта Панцелеймона ў паўразбураны манастыр у вёсцы Ляды сучаснага Чэрвеньскага раёна, а потым у Вілейку.

Бяз згоды Масквы па царкоўнай этыцы "Будзь царква ў Філадэльфіі альбо ў Сіднеі, аўтакефаліі не можа быць" і Філафей выбраў тактыку зацягвання гэтай справы, але быў вымушаны даць згоду на скліканне Сабору 28 жніўня 1943 года, які быў павінен даць адказ, па словах Уладыслава Казлоўскага – з кім застаюцца святары – з народам, ці прапаведнікамі Масквы "дарма, ці яны будуць у царскіх пагонах, ці царкоўных расах".

На Саборы вырашылі столькі пытанняў, што ўмела схавалі ў цень пытанне аўтакефаліі, "аўтакефалія будзе абвешчана толькі пасля таго, як яе ратыфікуюць усе астатнія хрысціянскія праваслаўныя цэрквы".

Тэма вельмі сур'ёзная, як кажуць у вёсцы – аскоміну набіла. Таму добры жарт дазволіць лепш засвоіць матэрыял. Тым больш, што ён у дадзеным выпадку двойчы дарэчы.

У мяне два стрыечных браты па прозвішчу Булан працавалі ў Беразвеччы ў турме. Жыў адзін з іх з сябрам на кватэры. Вядомая справа – ваенная адзенне надзявалі толькі на працы. Іх напарнікам тэрмінова спатрэбілася памяняцца днямі дзяжурстваў. Пытаючца ў гаспадыні: "Дзе Вашы кватаранты?" А прыйшлі ў вайсковым убранні – вось яна і разгубілася. "У Вас на кватэры Булан і Рыжы?" – "Адзін сапраўды рыжы, а другі то ж светлавалосы, мо й буланы, як Вы кажаце."

А цяпер пра двух уражэнцаў Глыбоччыны па прозвішчу Рыжы – яны ў замежжы ў пасляваенны час сталі святарамі беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.Як я працаваў кінамеханікам у вёсцы Дзеркаўшчына, мне расказвалі аб іх. Але ведаеце, нашы братцы беларусы ад патопу свету і да Саветаў і нават у сучасны момант сваёй цені баяцца. Вось і расказваюць штосьці рыжае-буланае.

Я лепш буду апірацца на артыкул Аляксандра Адзінца "Пра майго брата шмат казалі няпраўды" з кнігі "Паваенная эміграцыя. Скрыжаванні лёсу".

Эльгідзіюш (Юрый) Рыжы нарадзіўся 5 жніўня 1933 года ў вёсцы Латыгаль (сучасны Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці), а калі дакладней, то на хутары ля гэтай вёскі.

Як сцвярджае Юрый, іх бацька меў сваю малатарню, арфу, сячкарню, снопавязалку і, вядома, усе пабудовы, апрацоўваў 20 га зямлі.

Брат Уладзіслаў вучыўся ў Глыбоцкай гімназіі, дзве сястры (Старэйшая Стэфанія – у Польшы, малодшая памерла ў малым

Ул. Скрабатун

Стары альбом

# Шаркоўшчына

Гэта не Браслаўшчына! І на пярэднім плане – не возера! Гэта рака Дзісна ў Шаркоўшчыне. Падкрэсліваю гэта адмыслова. Сам разглядаў здымкі і не верыў, што на пярэднім плане – рака Дзісна. Неверагодна ж яна шырокая!

Некалькі разоў прачытаў тэкст на польскай мове ў подпісе да левага архіўнага здымка: *«Від горада ад боку ракі Дзісны. На беразе бачныя дзве лодкі. Бачная драўляная гаспадарчая забудова, а таксама дзве касцёльныя вежы. Дата фатаграфавання: 1918-1939. Месца: Шаркоўшчына. (...) Аўтар: Грабскі Уладыслаў».*

Ніякіх сумневаў! Шаркоўшчына над Дзісной! Магчыма, здымак зроблены пад час вясновай паводкі на Дзісне? Не! На дрэвах – лістота. Лета!

На правым здымку той самы касцёл Узвышэння Св. Крыжа ў Шаркоўшчыне, толькі сфатаграфаваны з іншага ракурсу. Вось такая шырокая рака Дзісна была сто гадоў таму!

Няма даўно таго касцёла ў Шаркоўшчыне. Заміж яго пабудаваны новы і ў іншым месцы. Дый рака Дзісна надна абмялела...





узросце. Уладыслаў у пачатку 1944 года стаўся сакратаром аддзелу моладзі БЦР (Беларускай цэнтральнай Рады), потым працаваў у аддзеле прапаганды БКА (Беларускай краёвай абароны). У 1945 годзе маці Юзэфу з дому Ермаковічаў асудзілі на 10 год і вывезлі ў Мардовію. Бацьку Франука расстралялі яшчэ ў 1942 годзе.

Уладыслаў адшукаўся ў 1959 годзе, калі Юрый жыў ужо ў Польшы.

Уладыслаў вучыўся ў Лювэне, у духоўнай семінарыі, але перайшоў у Мадрыдскі ўніверсітэт. У Прынстоне атрымаў тытул доктара тэалогіі, заснаваў старакаталіцкую беларускую незалежную ад Ватыкана малельню. Юрый у 1968 годзе высвенчаны ў епіскапы, а ў 1978 – у архіепіскапы, працягвае справу Уладзіслава, які ў 1972 годзе заклаў амерыканскі сусветны патрыярхат. "Мы адкрыта сустракаемся з прадстаўнікамі ўсіх канфесій" – кажа Юрый. "Раней расейскае замежная царква давала нам узнагароды, але як лопнуў Савецкі Саюз, разваліўся камунізм, Расейская заходняя царква (РЗЦ) паверыла, што штосьці павінна змяніцца і падалася пад крыло Масквы, а на мяне павесілі ўсіх сабак. Мы маем каля 5 прыходаў па ўсім свеце, два ў Амерыцы – у Мерылендзе і ў Фларыдзе, два ў Беларусі. Яны афіцыйна зарэгістраваныя, але трымаюцца ў цяні, паўафіцыйна".

Адна з цэркваў пабудавана ў Астрашыцкім Гарадку Леанідам Акаловічам, быўшым выкладчыкам педуніверсітэта імені Танка. У сучасны момант Акаловіч вучыцца ў духоўнай акадэміі горада Луцка на Украіне.

Габрэйскае пытанне і адносіны да яго Кубэ. Ёсць такі навуковы, навукова-папулярны, грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс "ARCHE Пачатак", выдаецца з верасня 1998 года, заснавальнік Андрэй Дынько, Валер Булгакаў – галоўны рэдактар. Гэта не рэклама, я толькі хачу сказаць, што я час ад часу карыстаюся іх матэрыяламі са спасылкай на часопіс "Архэ".

Прачытаўшы магістарскую працу, абароненую ў Кёльнскім універсітэце ў 2000 годзе У.В. Гартэншлегерам "Горад Мінск пад нямецкай акупацыяй 1941 – 1944 гады" і надрукаваную ў №5 за 2008 год у часопісе "Архэ", у мяне ў вачах паўстала сцэнка з кінафільма Гайдая. Памятаеце, як пасля розг, усыпаных Шурыкам, яшчэ адзін герой кінакамедыі Гайдая на выклік на любую працу рабіў шаг першым.

"Падчарка Беларусь", як адзначалі ўжо з вясны 1941 года нямецкія ўлады, трапіла пад акупацыю з-за свайго геаграфічнага становішча. Ніхто не ведаў, што рабіць з гэтай прахадной тэрыторыяй. Што да характару народа "скарб беларусаў – гэта іх сціплае наіўнае спачувальнае і пастаянна гатовае прыйсці на помач сэрца" (Энгельгард і Вакар).

Нават Кубэ каля Прылук рабіў раскопкі курганаў і імкнуўся даказаць, што беларусы найбольш блізкія да нардычаскай нацыі.

Гарады падчас нямецкай акупацыі будаваць лічылася непажаданым, бо яны больш за ўсіх паддаваліся паланізацыі і русіфікацыі. Але адміністрацыі без гарадоў не абыйсціся і Кубэ прапаноўваў адбудаваць новы горад на поўдзень ад Мінску, заселеную толькі немцамі сталіцу "Азгард".

У першыя дні акупацыі ў Мінску насельніцтва засталося чуць больш 100 000. Габрэяў, улічваючы і прывезеных з Еўропы, было каля 80 000. А пагэтаму паўстала патрэбнасць выкарыстоўваць габрэяў, як рабочую сілу. Пастаянныя рабочыя групы, замацаваныя за прадпрыемствамі, былі выгадныя абоім бакам працоўнай дзейнасці. Габрэі маглі падкарміцца па месцу працы, а то й узяць цішком. Прадпрыемствы мелі пастаянную дармавую рабочую сілу, якая з кожным днём павышала сваю кваліфікацыю. Ды і падполле мела сваіх агентаў па ўсім Мінску. Партызаны і гарадское падполле дапамагалі некаторым габрэям уцячы з гетта. Але гэта было даволі рэдкай з'явай, бо губляць сваіх агентаў ой як не хацелася.

Акупацыйныя ўлады адказнасць за пабудову гетта і за захоўванне парадку ў іх узлажылі на габрэйскую раду старшынаў.

Галоўная канцылярыя імперскай бяспекі лічыла, што запланаванае знішчэнне габрэяў прасцей здзяйсняць на прасторах усходу. З 7 па 11 лістапада 1941 года СД знішчыла каля 6 000 габрэяў. З 16.12.1941 года Кубэ высказаўся: "Я безумоўна гатовы спрыяць вырашэнню габрэйскага пытання, але супраць метадаў, не вартых немцаў і нямеччыны Канта і Гётэ. Немагчыма выкрасліць Мендэльсона і Офенбаха з гісторыі музыкі без таго, каб не засталося пустое месца".

Сярод абслугі Кубэ было 70 габрэяў.

Кіраўнік ахоўнай паліцыі Герф ухіляўся ад удзелу ў пагромах, бо "у гетта знаходзяцца франкфуртскія габрэі, сярод якіх ёсць тыя, з кім мы разам удзельнічалі ў першай сусветнай вайне."

Карл Лёвенштайн быў выратаваны і з гета Вільгельмам Кубэ таму, што яны былі аднакурснікамі.

20 ліпеня 1943 года Кубэ выклікаў Штраўха і паведаміў яму, што парывае ўсялякае супрацоўніцтва з СД у знак пратэсту проціў растрэлу 70 габрэяў з прыслугі Кубэ.

# А можа трэба змяшчаць фатаграфіі парушальнікаў у газетах і на стэндах?

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Пастаўскі раён – адзін з найпрыгожых у Віцебскай вобласці, ён багаты азёрамі і лясамі. Тут знаходзіцца рэзідэнцыя Зюзі Паазерскага, тэрыторыю раёна плануецца ўключыць у Нарачанскую турыстычную зону. Але, прыгажосць тутэйшых месцаў прыцягвае да сябе не толькі турыстаў і адпачывальнікаў, але і масу браканьераў, якія бязлітасна вычэрпваюць з азёраў рознымі браканьерскімі снасцямі насельнікаў вадаёмаў.

Перад Дзяржаўнай інспекцыяй аховы жывёльнага і раслiннага свету кіраўніцтвам рэспублікі пастаўлена задача, навесці парадак на вадаёмах краіны. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі штодня ажыццяўляюць кантроль за аховай вадаёмаў як у зоне адказнасці інспекцыі, гэтак жа аказваюць дапамогу і суседнім раёнам.



21 жніўня 2010 года рэйдавая Глыбоцкай міжрайінспекцыі была накіраваная ў Пастаўскі раён для правядзення прыродаахоўных мерапрыемстваў. Прыбыўшы на возера Вялікія Швакшты каля 19 гадзін вечара, група размясцілася ў месцах найболей верагоднага з'яўлення браканьераў. Месцы на возеры вельмі прыгожыя і заўсёды шмат адпачывальнікаў, рыбакоў, а таму вызначыць, хто з рыбакоў займаецца незаконнай лоўляй рыбы вельмі складана, але калі захацець - можна. Не прайшло і дзвюх гадзін, як увагу інспектараў прыцягнула лодка з двума чалавекамі. Нягледзячы на тое, што згушчаецца змрок, багністы бераг, рэйдавая група змагла затрымаць браканьераў, якія дзвюма сеткамі лавілі рыбу. У затрыманых бацькі і сына жыхароў в. Роскаш Пастаўскага раёна канфіскавана каля 2 кг. рыбы і сеткі, пакаранне бацьку вынесе раённы суд, а сыну камісія па справах непаўналетніх, бо ён непаўналетні.

Адпрацаваўшы ўсю ноч на вышэй указаным возеры, рэйдавая група каля 6 гадзін раніцы накіравалася на возера Малыя Сурвілішкі Пастаўскага раёна, дзе на працягу толькі 1 гадзіны затрымала 2 грамадзян, аднаго мясцовага жыхара, у якога канфіскавана сетка і 1 кг. рыбы, а затым госця з г. Мядзел, які палічыў, што ў такіх ціхіх месцах можна лавіць рыбу сеткамі ні каго не баючыся, але памыліўся. Канфіскаваны 2 сеткі і рыба, а пакаранне вынесе раённы суд.

На жаль, жыхары нашага раёна не адстаюць ад суседзяў і гэтак жа рэгулярна трапляюцца ў сеткі работнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Толькі за няпоўны месяц за незаконную здабычу рыбы сеткамі прыцягнута да адказнасці амаль 20 грамадзян, г.зн. 1 чалавек у дзень, няўжо злоўленая сеткамі рыба варта выплачаных штрафаў. А можа трэба змяшчаць фатаграфіі парушальнікаў у газетах і на стэндах, каб усе ведалі іх у твар.

Пра ўсе факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету па тэлефонах :

8-02156-2-86-70 – «гарачая лінія», 2-80-30 начальнік інспекцыі, маб. 897-23-02, маб. 890-55-28, 249-45-49

**Велізарны дзякуй усім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу інспекцыі ў спыненні правапарушэнняў.**

# Для развіцця турыстычнай інфраструктуры неабходны дыялог грамадскасці і дзяржавы, лічыць дырэктар агенцтва «Гісторыя-Тур» Алесь Кушнер

**Для развіцця інфраструктуры айчыннага турызму неабходны дыялог грамадскасці і дзяржавы, заявіў у інтэрв'ю БелаПАН дырэктар агенцтва «Гісторыя-Тур» Алесь Кушнер.**

Паводле яго слоў, у краіне ёсць шмат актыўных людзей з цікавымі новымі ідэямі, якія могуць і павінны быць прынятыя дзяржавай для развіцця ўсіх бакоў жыцця грамадства, у тым ліку і інфраструктуры турызму. Ён выказаў шкадаванне, што пакуль такое ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва не наладжана. «Адносіны ж паміж чыноўнікамі, грамадскасцю і прыватнымі асобамі павінны быць партнёрскімі, а не іерархічнымі», — сказаў Кушнер.

Прычынай інертнасці мясцовых улад у рэалізацыі недзяржаўных праектаў, лічыць эксперт, з'яўляецца апасенне чыноўнікаў, што іх ініцыятыва можа быць каральная.

Як мяркуе Кушнер, беларусы павінны прыйсці да ўсведамлення агульнапрынятага ва ўсім цывілізаваным свеце становішча, пры якім дзяржаўнае, грамадскае і прыватнае працуюць разам на карысць усіх. «Дзяржава павінна больш давяраць людзям, а таксама прыслухоўвацца да іх меркавання і прапаноў», — падкрэсліў прадпрымальнік. Ён мяркуе, што дзяржава павінна падтрымліваць «найбольш цікавыя, рэальныя і жывыя» недзяржаўныя праекты, як гэта робіцца ва ўсім свеце.

Разам з тым, паводле слоў Кушнера, паколькі мясцовыя чыноўнікі «заваленыя вырашэннем паўсядзённых праблем і вельмі абмежаваныя ў прыняцці рашэнняў, яны не спяшаюцца «прабіваць» у жыццё грамадскія і прыватныя ініцыятывы ў сферы культуры».

Паводле меркавання Кушнера, жывучасць грамадскай ініцыятывы яшчэ раз пацвярджае ідэю аб тым, што ў аснове любой нацыі ляжыць грамадзянская супольнасць. «І ўсе краіны гэта разумеюць, паколькі прайшлі такі шлях, якому няма альтэрнатывы. Гэты шлях адпавядае сусветным законам развіцця дзяржавы, грамадства і эканомікі», — сказаў прадпрымальнік.

Нагадаем, Кушнер ініцыюе праект увекавечання памяці яўрэяў — былых жыхароў Гальшан, рэпрэсіраваных у гады сталінізму.

*Марат Гаравы, БелаПАН*

# Сіноптыкі прагназуюць, што «пякельнае» лета падоўжыцца яшчэ 5-7 гадоў

Па дадзеных украінскіх гідраметэаролагаў, надзвычай гарачае лета падоўжыцца яшчэ каля сямі гадоў. Далей градус пойдзе на спад, і паднімецца ўжо ў канцы стагоддзя.

За апошнія 20 гадоў сярэдняя летняя тэмпература ва Ўкраіне вырасла на 1,3-1,7 градусаў. Па прагнозах навукоўцаў, гэта тэндэнцыя захаваецца, перадае «Карэспандэнт.net».

Праграма развіцця ААН раіць усім краінам распрацаваць планы адаптацыі да новага клімату. Некалькі тыдняў назад прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч выдаў указ, у якім навукоўцам даручана прапанаваць неабходныя меры, а Радзе нацбяспекі і абароны - прыслухоўвацца да гэтых рад.

У Акадэміі навук Украіны рады, што іх нарэшце пачуюць. Як аказалася, яшчэ ў 1998 яны распрацавалі доўгатэрміновы прагноз кліматычных пагроз - план «пераходу краіны на трапічны лад». Але далей навуковага трактата справа не пайшла - дакументы «затрымаліся» ў міністэрстве фінансаў.

Зараз праблему даследуюць нанова. За год абяцаюць апублікаваць рады: як ва ўмовах спякоты весці гаспадарку: сельскую, камунальную, будаўнічую і транспартную.

Тым часам, па прагнозах сіноптыкаў, з 22 жніўня тэмпература паветра ва Ўкраіне (а адпаведна ў суседняй Беларусі) ізноў пачне паднімацца.

К.Б. Юхневіч,
*старэйшы дзяржаўтаінспектар ДАІ*

# Увесь конны транспарт будзе зарэгістраваны

У мэтах забеспячэння бяспекі дарожнага руху на конным транспарце і прывядзення яго тэхнічнай спраўнасці ў адпаведнасці з усталяванымі правіламі, упраўленнем ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкама прынята рашэнне пра абсталяванне ўсяго коннага транспарту вобласці нумарнымі знакамі. Рэгістрацыю дадзенага тыпу транспарту, а таксама правядзенне штогадовага тэхнічнага агляду будуць ажыццяўляць раённыя (гарадскія) аддзяленні ДАІ бясплатна. Да 20 жніўня г.г будуць складзены і накіраваны графікі правядзення рэгістрацыі і тэхнічнага агляду коннага транспарту ва ўсе сельскія (пасялковыя) саветы, а таксама ў арганізацыі і прадпрыемствы, якія маюць на балансе дадзены тып транспарту. Рэгістрацыі ў падраздзяленнях ДАІ падлягае толькі той конны транспарт, які эксплуатуецца на дарогах агульнага карыстання. Пасля правядзення працэдуры рэгістрацыі ўладальніку коннага транспарту выдаецца нумарны знак, які складаецца з пяці лічбаў (за аснову бярэцца ўжо скарыстаныя транзітныя нумарныя знакі Літвы). У далейшым, нумарныя знакі ўжо зарэгістраванага транспарту будуць занесеныя ў базу дадзеных тэрытарыяльнага падраздзялення ДАІ і перададзеныя ў аддзяленне тэхнічнага нагляду ўпраўлення ДАІ для абагульнення і вядзення цэнтралізаванага ўліку і статыстыкі. Апроч гэтага, у базу дадзеных будуць занесеныя і звесткі пра ўласніка коннага транспарту, тыпе, відзе коннага транспарту пройдзеным тэхнічным аглядзе. У выпадку згубы, або пры пашкоджанні нумарнога знака, можна будзе атрымаць новы. Калі па нейкіх прычынах уладальнік не зможа падаць транспарт да месца рэгістрацыі, то будзе магчымасць зарэгістраваць яго па месцы знаходжання.

У выпадку парушэнняў Правіл дарожнага руху, да возніка́ў, якія будуць кіраваць незарэгістраваным ці не прайшоўшым тэхагляд конным транспартам, будуць ужывацца максімальныя меры адміністрацыйнага ўздзеяння. Калі ж вознік будзе перасоўвацца без святлоадбівальнай камізэлькі і конны транспарт не будзе абсталяваны святлоадбівальнымі элементамі ў адпаведнасці з усталяванымі правіламі, то тэхнічны агляд анулёўваецца, і інфармацыя ўносіцца ў базу дадзеных.






# З пачатку года на дарогах Беларусі загінула 19 дзяцей, 318 — атрымалі траўмы

**З пачатку 2010 года на дарогах Беларусі загінула 19 дзяцей, 318 — атрымалі траўмы. Пра гэта паведаміў начальнік аддзела навукова-метадычнага і прававога забеспячэння ўпраўлення ДАІ Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Анатоль Сушко на прэс-канферэнцыі 20 жніўня.**

Паводле даных ДАІ, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць загінулых скарацілася на пяць чалавек, траўмаваных – на 69.

У студзені-ліпені гэтага года зарэгістравана 285 ДТЗ з удзелам дзяцей – на 17% менш, чым за такі ж перыяд мінулага.

Сушко параіў бацькам знаходзіць найбольш бяспечныя маршруты, каб адвозіць дзяцей да навучальных устаноў, а таксама не забываць забяспечваць іх святлоадбіўнымі элементамі.

Старшы інспектар упраўлення Дзяржаўтаінспекцыі МУС Беларусі Станіслаў Салавей паведаміў, што з 23 жніўня па 8 верасня ў краіне пройдзе комплекснае мерапрыемства «Увага, дзеці!».

«У рамках гэтага мерапрыемства мы рэалізуем мноства акцый, сярод якіх – «Бяспечны пераход»: на пешаходных пераходах будуць дзяжурыць людзі з таблічкамі «СТОП», таксама будзем прыцягваць да дзяжурстваў саміх школьнікаў», – расказаў Салавей.

Ён заклікаў аўтамабілістаў у перыяд дзеяння мерапрыемства ездзіць з уключаным бліжнім святлом фар.

У сваю чаргу Міністэрства адукацыі павысіла ўвагу да праблемы бяспечных паводзін на дарогах, паведаміў галоўны інспектар упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Мінадукацыі Уладзімір Паддубскі.

«З 2010 года, – зазначыў ён, – павялічваецца колькасць гадзін курсу «Асновы бяспекі жыццядзейнасці», які вывучаецца ў школах у 2–9-х класах. Таксама ў школьных установах рэалізуецца адукацыйная праграма «Пралеска», у дзіцячых садках ёсць «гарадкі», дзе можна трэніраваць дзяцей, як паводзіць сябе на дарозе».

Паддубскі дадаў, што ў гэтым годзе для вучняў 5–6-х класаў дабаўлены факультатыўны курс «Бяспечны веласіпедыст» (прынцыпы бяспечнага ваджэння і паводзін на дарогах у сельскіх і гарадскіх умовах), для старэйшых класаў рыхтуецца аналагічны курс заняткаў «Матацыкліст».

Цяпер, дадаў галоўны інспектар, па даручэнні Савета міністра пры садзеянні ДАІ і многіх міністэрстваў распрацоўваецца комплексная праграма па бяспецы на дарогах на 2011–2015 гады.

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН*

# У Глыбоцкім раёне галодны муж забіў жонку талеркай

**Сямейная сварка з сумнымі наступствамі адбылася ў вёсцы Галубічы.**

Пасля сумеснага ўжывання алкаголю 58-гадовы муж пачаў лаяць жонку за непрыгатаваную вячэру, за што атрымаў ад яе сустрэчны папрок у малым заробку. Удар аказаўся «ніжэй пояса», не знайшоўшы годнага адказу, мужчына схапіў са стала пустую фарфоравую талерку і стукнуў ёю па галаве жонку, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА следчы-крыміналіст пракуратуры Віцебскай вобласці Аляксандр Казакоў.

Не надаўшы асаблівага значэння атрыманай ране, 55-гадовая жанчына не звярнулася па дапамогу да ўрачоў і памерла праз некалькі гадзін ад траўматычнага ацёку мозгу.

За нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія пацягнулі па неасцярожнасці смерць, у дачыненні да вяскоўца ўзбуджана крымінальная справа па ч.3 арт.147 Крымінальнага кодэкса Беларусі, якая прадугледжвае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

# Цягнікі раскідалі статак кароў, пакуль пастухі пілі

**Каля 50 кароў загінулі пад коламі двух пасажырскіх цягнікоў, якія рухаліся ў сустрэчных накірунках.**

НЗ адбылося ў Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці, паведаміла агенцтву «Інтэрфакс-Захад» у пятніцу прэс-сакратар Віцебскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях Марына Фандо.

«Два пасажырскія цягнікі Гродна-Масква і Масква-Варшава, якія рухаліся ў сустрэчным кірунку, сутыкнуліся ў Дубровенскім раёне са статкам кароў. На шляхах пасвіліся больш за 230 жывёлаў. Каля 50 з іх загінулі пад коламі цягнікоў», – паведаміла Фандо.

«Пацярпелых сярод пасажыраў і персаналу цягнікоў не было. Загінулых кароў прыбіралі аўтапагрузчыкі», – удакладніла суразмоўніца агенцтва.

Акалічнасці здарэння высвятляюцца супрацоўнікамі Аршанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце. Двое пастухоў знаходзіліся ў нецвярозым стане, яны даставленыя ў медыцынскую ўстанову для агляду.

Як паведаміў агенцтву прэс-сакратар упраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі Аляксандр Марчанка, з-за дадзенага ДТЗ быў спынены рух 5 цягнікоў: Масква-Варшава – на 40 хвілін, Масква - Брэст – на 1 гадзіну 28 хвілін, Масква - Гомель – на 1 гадзіну 14 хвілін, Масква - Мінск – на 21 хвіліну, Гродна-Масква – на 3 гадзіны 49 хвілін.

Марчанка адзначыў, што за мінулыя суткі гэта не адзіны выпадак, калі ў Беларусі на чыгуначных шляхах транспартам, які рухаўся, былі збітыя жывёлы.

«На 147 кіламетры станцыі Ельск (Гомельская вобласць) дызель-цягнікам Калінкавічы - Славечна быў збіты дзік. У цеплавозе пашкоджаная паліўная магістраль. Затрымка ў руху цягніка склала 35 хвілін», – удакладніў суразмоўца агенцтва.

